Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 73 (124). Вільня, Субота 8 Кастрычніка 1927 г. Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Жыхары м. Горадні, Беларусы работнікі і інтэлігенцыя! Галасуйце за сьпісак № 12

## Нацыяналізм і інтэрнацыяналізм.

Пасол А. Пашчук, адзін з лепшых дзеячоў камуністычнага руху ў Польшчы, на гэтых днях выступіў з соймавай камуністычнай фракцыі. Гэта выступленьне знайшло шырокі адгалос ня толькі сярод украінскіх, але і сярод іншых палітычных груп.

Пакіданьне камуністычных пазыцыяў, належыць да гэтак рэдкіх выпадкаў, што крок гэты трэба ўважаць за вынік глыбокай унутранай барацьбы і актам назвычайнай грамадзкай адвагі.

Ніжэй падаем гутарку карэспандэнта газэты „Діло“ з пaслом Пашчуком.

— Наскольки камэнтары польскай прэсы да весткі аб Вашым выхадзе з соймавай камуністычнай фракцыі адпавядаюць праўдзе?

— Што датычыць кароткіх зацемак у „Работніку“ і іншых варшаўскіх польскіх газэтах ад 16-га верасьня, то яны апіраюцца на даных праз мяне інфармацыях. Я сапраўды выступіў з камуністычнай фракцыі, а прычыны гэтага кроку—гэтакія:

Найважнейшая прычына гэта тая, што соймавая камуністычная фракцыя бароне ўкраінскія інтарэсы не з пагляду дабра *для самага ўкраінскага народу, а для інтэрнацыянальнага камунізму*. Мне здавалася спачатку, што адно з другім можна пагадзіць, дзеля таго, марксізм у ленінскай інтэрпрэтацыі ставіць сабе ў аснову, так клясавае, як і поўнае нацыянальнае вызваленьне. Практыка і тут, на грунце Сойму і там, дзе гэтыя ідэі праводзяцца ў жыцьцё,—паказала і паказвае разрыў між тэорыяй і зьдзейсьненьнем яе.

Віной гэтаму—ёсьць тое, што цэнтрам камунізму ёсьць—Масква, а рэалізатарамі вялікіх ідэяў марксізму зьяўляюцца маскалі, прапятыя да глыбіні маскоўскім вялікадзяржаўніцкім імпэрыялізмам. Сьледзючы за адносінамі і ходам падзеяў на Радавай Украіне, я прышоў да перакананьня, што саюзная радзянская канстытуцыя ёсьць вопраткай, пад якой вядзецца далей поўнае эканамічнае і палітычнае, а на'т, панекуль, культурнае ўнезалежненьне ад Масквы. Усе бязумоўна вялізарныя нацыянальна-культурныя здабычы Наддняпроўскай Украіны ў апошніх гадох здабыты дзякуючы сьцыхійнаму ўзросту нацыянальнай і сацыяльнай сьведамасьці ўкраінскага народу і націску на кіруючую чужацка-нацыянальную ерархію. У соймавай камуністычнай фракцыі маскалёў няма, ёсьць затое Палякі. І вось, я бліжэй пазнаўшы таварышаў па фракцыі Палякаў, пераканаўся, што калі-б у Польшчы настала дыктатура пралетарыяту і яны прышлі да ўлады, то ўкраінскае нацыянальнае пытаньне ў Польшчы разьвязалася-б імі так, як разьвязваецца „рікапістамі“ ў Радавай Украіне.

Я зразумеў, што немагчыма праводзіць поўнае сацыяльнае вызваленьне народу пад інтэрнацыянальнымі лёзунгамі, пакуль ён не здабудзе поўнага нацыянальнага раскрапашчэньня.

— Якое-ж цяпер Ваша становішча да кампартыі?

— Вось, пераверыўшы дакладна свой сьветапагляд, пасьля глыбокай аналізы сваіх думак і пачуцьця, я ня мог даўжэй стаяць на становішчы камунізму і камуністым перастаў быць. Да жаднае партыі цяпер не належу. Ці ўступлю ў адну з існуючых украінскіх партыяў, гэта будзе відаць, якой найлепш зыйдуся на грунце рэальнай грамадзкай працы.

— З якімі элемэнтамі ўважаеце для сябе магчымым далейшае супрацоўніцтва?

— З тымі, якія стаяць на грунце нацыянальных ідэалаў, ды з боку сацыяльнага баронюць сялянства і работнікаў і працоўную інтэлігенцыю ад вызыску капіталізму. Што датыча соймавага грунту, то я падаў ужо заяву аб павароце ў украінскую парламэнтарную рэпрэзэнтацыю.

— Ці ня думаеце, што Ваша сьмелае выступленьне з камуністычнай фракцыі будзе мець які ўплыў на становішча Вашых былых фракцыйных таварышаў Украінцаў?

— Гэтага ня ведаю. Свой крок я зрабіў пасьля доўгай і цяжкай барацьбы ў сваім сумленьні. Цяпер мне лягчэй. Магу хіба пажадаць усім украінскім дзеячам, якія расчараваліся ў вартасьці тэорыі, якую прынялі і наагул да якой прысталі, каб знайшлі ў сабе грамадзкую адвагу прызнацца да памылкі і завярнуць з дарогі.

## Арышты Літвіноў.

У ночы з 4-га на 5-га кастрычніка між 1-ай а 3-цяй гадзінай, у Вільні і ў Віленшчыне адбыліся рэвізіі сярод усіх палітычных і грамадзкіх літоўскіх дзеячоў. Мундуровая паліцыя разам з цывільнай (сышчыкамі) зрабілі павальныя рэвізіі і ня гледзячы на непажаданыя для сябе вынікі рэвізіяў, шмат Літвіноў арыштавалі і пасадзілі ў вастрог на Лукішкі. Паводле вестак в польскіх газэт, арыштавана 20 асоб Літвіноў.

### Каго арыштавалі.

У Вільні сярод Літоўцаў арыштавалі наступных асоб: кс. К. Чыбіраса, кс. Ф. Беляўскага, кс. Н. Раштуса, кс. П. Краўляліса, кс. В. Ташкуна, М. Гірдзюль, Е. Лукашэвіч, А. Стэфановічыху, Б. Лешкевіча, К. Алексу, М. Жукоўскую, П. Вайтуляніса і П. Каразя.

З гэтых асоб П. Каразя улады выкінулі з граніц Польшчы.

На абшары Сьвенцянскага пав. арыштавалі: кс. В. Бобіна і кс. В. Крыштапаніса.

Па абшарах Віленска-Троцкага пав. арыштавалі кс. А. Рукаса і кс. Корвяліса.

Усіх арыштованных пасадзілі у вастрог на Лукішках у Вільні. Арышты Літвіноў носяць выключна палітычны характар і відацьмаюць на мэце змусіць Літву лічыцца з Польшчаю. Польскія газэты не падаюць канкрэтнай віны арыштаваных, а проста лічуць іх толькі „антыпанствоўцамі“.

### Рэвізіі.

Адначасна з арыштамі ў Вільні адбыліся рэвізіі: у кватэрах наступных: Я. Радзевіча, В. Кайрукштіса, А. Кротуліса, М. Станкевіча, Г. Гогобіча, В. Будрэвіча і ў літоўскай вучыцельскай сэмінарыі.

### Зачыненьне літоўскіх школ.

Па загаду ўраду м. Пілсудскага дня 5-га кастрычніка на абшары Віленскага ваяводства польскія ўлады зачынілі: Літоўскую Вучыцельскую Сэмінарыю ў Вільні і 48 літоўскіх прыватных школ утрымліваных Асьветным Таварыствам „Rytas“, а іменна: на абшары Віленска-Троцк. пав. 25 школ, на абшоры Сьвенцянскага пав. — 5 школ і на абшары Лідскага пав. 18 школ.

## Сьледзтва у справе Трайковіча.

Сьледзтва, якое вядося ў Вільні ў справе забіцьця Трайковіча ў савецкім пасольстве, выказвае правакацыйны характар гэтага забіцьця. Як аказалася, Трайковіч быў уцягнуты ў дружбу з нейкім Брукам, агентам савецкім, які шпікаваў дзейнасьць тутэйшай эміграцыі расейскай і Голубам—арганізатарам Камсамолу, сябрам „Грамады“, абодвы ўдавалі манархістых. Брук, некалькі дзён таму, уцёк у Данцыг, дзе зрабіўся працоўнікам данцыгскага савецкага прадстаўніцтва. Адначасна сцьверджана, што Трайковіч перад выездам у Варшаву заходзіў да Голуба, з якім быў у найлепшых адносінах. Цяпер Голуб скрыўся няма ведама куды. Гэтымі днямі зьявіўся ў Вільні бацька Брука, які прыехаў з Расеі, даведавацца ў расейскай гімназіі аб адрасе сына, але даведаўшыся аб неспадзеваных выніках сьледзтва,—уцёк з Вільні ў кірунку быццам да Данцыгу.

